# КРЫВІНКА

ВЕРАСЕНЬ
№ 13 (114)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


"Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай".
**Ул. Караткевіч.**



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЧАС, ЯКІ СПЫНІЎСЯ

"У калгасе імя А.М.Варанецкага скошана палова зерневых. Хлебаробы намалочваюць у сярэднім па 40 цэнтнераў зерня з гектара…"

"За ўраджай у адказе кожны. Нядаўна наш карэспандэнт пабываў у Ганцавіцкім раёне, размаўляў з механізатарамі, камсамольскімі работнікамі…"

"Докшыцкі раён. Камбайнер калгаса "Зара камунізму" Мікалай Маскалёнак за дзень, працуючы на камбайне "Ніва", намалаціў 34 тоны зерня…"

Перад мной газета "Знамя юности" – орган ЦК ЛКСМ Беларусі ад 10 жніўня 1976-га года. Яна тады выходзіла пад лозунгам "Пралетары ўсіх краін, яднайцеся!" І хоць з таго часу мінула 36 гадоў, тэматыка і змест тагачаснай газеты цалкам адпавядаюць сённяшняй беларускай афіцыйнай прэсе. Усё тыя ж героі, усё тыя ж лозунгі, усё тыя ж старыя песні. Складваецца ўражанне, што наша Беларусь заснула ў часе развітога сацыялізму, настолькі падобныя тагачасны і сённяшні чыноўнікі ў сваіх дзеяннях.

Сённяшняя беларуская афіцыйная ідэалогія наўпрост спісана з тых гадоў, калі Савецкая Белоруссія выконвала-перавыконвала саюзныя планы-заданні і за тое ёй прышпільвалі на чырвона-зялёнае знамя краіны чарговы ордэн. Увесь свет змяніўся з таго часу непазнавальна. Развалiліся ўсе таталітарныя рэжымы ў Еўропе. І толькі наша краіна па-ранейшаму працягвае змагацца за тое, каб накарміць народ. Каб адвесці яго ад краю бездны, куды яго нехта ўпарта штурхае.

Але ёсць у нас і перамены. Калі ў мінулым стагоддзі ў тагачаснай Советской Белоруссіі не было ўнутраных ворагаў і ўвесь народ жыў адзінай сям'ёй, цяпер у незалежнай Беларусі, калі верыць Прэзідэнту, з'явілася нейкая "пятая калона". З'явілася незалежная прэса, пра якую тады можна было толькі марыць. З'явіліся новыя людзі, якія ведаюць, куды трэба весці Беларусь, каб народ урэшце накарміў сам сябе. Урэшце, пачалася пашырацца незалежніцкая думка. Няхай яшчэ не так хутка, як хацелася б, але яна штодзень заваёўвае новыя плацдармы. І тое не можа не радаваць.

Толькі сляпы не адчувае наступленне хуткіх пераменаў. Толькі дурань можа меркаваць, што яму ўдалося спыніць час.

**Г.Станкевіч.**

● *Максіму Танку – 100 гадоў*

## КАЛІ…

*Калі ў хлебе*
*Больш сілы, як хлеба,*
*Калі ў віне*
*Больш хмелю, як віна,*
*Калі ў агні*
*Больш цяпла, як агню,*
*А ў застоллі*
*Больш сяброў, як застолля, –*
*Пара пачынаць песню.*

*Калі ў хлебе*
*Больш хлеба, як сілы,*
*Калі ў віне*
*Больш віна, як хмелю,*
*Калі ў агні*
*Больш агню, як цяпла,*
*А ў застоллі*
*Больш застолля, як сяброў, –*
*Пара канчаць песню.*

**М.Танк.**

КАЛГАСНЫЯ НАВІНЫ

## НА БУЛЬБЯНЫХ ПАЛЕТКАХ

Сёлета, як і апошнія гадоў восемдзесят, на бульбяных палетках раёна квітнее ручная праца. Калі ў перадваенныя і першыя пасляваенныя гады мінулага стагоддзя гэтаму ніхто не здзіўляўся, то ў 21-м стагоддзі ручная ўборка бульбы становіцца ўсё большай рэдкасцю. Хаця ў гаспадарках нашага раёна ад яе пакуль што ніхто не адмаўляўся. Вось і сёлета на бульбяных палетках сельгаспрадпрыемства "Астроўна" працуюць студэнты і беспрацоўныя. Абяцаюць падключыць і школьнікаў.

Зразумела, што беспрацоўных пагнаў на гэту цяжкую працу нялёгкі лёс і магчымасць разжыцца "дармавой" бульбай. А што студэнты і школьнікі? Няўжо ім няма чым заняцца ў гэты час на вучэбных месцах? Ці праўда, што бальшыня іх едзе на падобныя заробкі, імкнучыся да фінансавай незалежнасці? Аказваецца, што якраз з дакладнасцю да наадварот. Як абсалютная бальшыня студэнтаў і школьнікаў, так і іхнія бацькі катэгарычна супраць, каб іхнія дзеткі замест вучобы працавалі ў калгасах. Многія шукаюць рознымі шляхамі медыцынскія даведкі, толькі каб не ісці на сельгасработы. Бо заробкаў тых там – кот наплакаў, а хваробаў з калгаса можаш прывесці цэлы воз. Але сказаць пра тое ўслых нельга, каб не трапіць у няміласць да адміністрацыі навучальнай установы. І хто ведае, як павернецца твой лёс, калі ўпарты выкладчык не захоча табе ставіць залік ці зрэжа на экзамене. Калі ты не быў у калгасе ды яшчэ актыўна падбухторваў іншых, лічы, што твой лёс вырашаны. А так могуць і пашкадаваць няшчаснага студэнта.

Вядома, што аснову нашай сельскай гаспадаркі складае прымусовая праца. Але ж трэба біць трывогу, калі гэта праца дзіцячая. Тым больш, калі яе маскіруюць і падаюць пад соусам дабраахвотнай. (Мо вы памятаеце, каб нам аб'яўлялі прыкладна такое: "Заўтра, той хто хоча, едзе ў калгас на працу. Астатнія адпачываюць."?) Дакладна вядома адно, што для кіраўнікоў усіх рангаў і тых, хто клапоціцца пра "продовольственную безопасность страны", гэта найпрасцейшы шлях, каб утрымацца ў сваіх крэслах.

**У.Ліпскі.**

ВЫБАРЫ-2012

## Па тому ж сцэнару

У нумары 72 раённай газеты "Зара" на першай старонцы – фотаздымак кандыдата ў дэпутаты Шыкшняна П.Г. Зняты ён на фоне хлебнай нівы, нібыта толькі што вылез з-за штурвала камбайна, які плыве па палетку на заднім плане здымка.

І гэта першы падман, бо як сведчыць сам кандыдат у сваёй праграме, ніякі ён не хлебароб. Ёсць у яго толькі вопыт працы ў органах дзяржаўнага кіравання. Тых самых, чые заробкі з нядаўніх часоў сталі вялікай таямніцай для народа.

Я двойчы перачытаў яго перадвыбарчую праграму, але акрамя агульных фраз, якія не маюць для мяне аніякай цікаўнасці, нічога канкрэтнага там няма. Хіба што напрыканцы стаіць, што будучы дэпутат абяцае нам садзейнічаць у будаўніцтве маста праз Дзвіну і басейна. Дык пра басейн мы ўжо гады два як ведаем. А пра мост ужо ўсіх пяць. Хто толькі і дзе толькі яго не будаваў! І вось цяпер без двух тыдняў дэпутат будзе "дапамагаць" будаваць тое, што пабудуюць і без яго, калі на тое хопіць дзяржаўных сродкаў.

У нас чамусьці склалася заганная практыка, калі справа тычыцца выбара на дэпутацкія пасты ці прызначэння на дзяржпасты чыноўнікаў. Прыкладам, нам кажуць: вось выбераце доктара, ён вам у бальніцу дасць апарат УГД (УЗІ) і тамограф за мільярд. А выбераце іншага – ён вам нічога не дасць. Нібыта тое "дасць" не "дасць" чыноўнік ажыццяўляе са сваёй кішэні, а не з дзяржаўнага бюджэту. А тое, што ў кандыдата няма сваёй думкі ні па аднаму пытанню і ўся яго праца складаецца з "куды пашлюць", ды яшчэ што напіша ў сваёй праграме стаячы над ім галоўны чыноўнік, як бы не адыгрывае істотнай ролі.

Вось так з-за такіх чыноўнікаў нам і будуюць атамныя станцыі і жывёлагадоўчыя комплексы, без якіх мы сёння маглі б лёгка абысціся. З-за іх сёння мы не маем грошаў для рашэння сапраўды надзённых і не такіх ужо і значных па грашовых сродках праблемаў. Напрыклад, дабраўпарадкаванне нашага райцэнтра. Мы цэлымі дзесяцігоддзямі чакаем, калі нам адрамантуюць асфальт на тых вуліцах, якія калісці ўжо былі заасфальтаванымі, а сёння сталі амаль непраезджымі. Чакаем, калі хаця б цэнтральная вуліца райцэнтра ўбачыць нармальны ходнік.

Які даць накірунак краіне, сёння ў Беларусі фактычна вырашае адзін чалавек. Ён пакуль што будуе АЭС і комплексы для жывёлы. А так званыя народныя дэпутаты ствараюць яму фон легітымнасці, хаця яны павінны адстойваць у Палаце прадстаўнікоў інтарэсы народу. А хто іх адстойвае, калі народныя дэпутаты – спрэс чыноўнікі? Калі такога перасадзяць з крэсла вертыкальшчыка ў дэпутацкае, стыль і метады яго працы не зменяюцца ні на ёту. Вось і чарговы "народны абранік" у асобе старшыні Лепельскага РВК Шыкшняна на чарговых выбарах імкнецца адстойваць народныя інтарэсы, з той жа дакладнасцю, як гэта апошнія чатыры гады рабіў А.І.Міхалевіч, перасоджаны ў Палату з крэсла старшыні Чашніцкага РВК.

Нам не даюць, каб сапраўдныя народныя абранікі маглі перыядычна скарыстацца хоць бы старонкамі раённай газеты. Любы сродак масавай інфармацыі ў лукашэнкаўскай краіне выдзяляецца толькі нясьбітам адной праўды – праўладнай. Тое, што гэта вядзе да застою і загнівання, ведаюць усе. Ведаюць і маўчаць. Чыноўнікі баяцца страціць грашовыя пасады.

А народ па-ранейшаму п'е і вымірае.

**Г.Станкевіч.**

## "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/** , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html** , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – наша падзяка.***

***Словам, сувенірам.***

ЗБІРАЕМСЯ Ў ШКОЛУ

# ФІНАНСАВАЯ ДАПАМОГА

Згодна дадзеных раённага выканаўчага камітэта, у нашым раёне налічваецца 178 сем'яў, якія адносяцца да катэгорыі малазабяспечаных. У гэтых сем'ях выхоўваецца каля 250-і дзяцей школьнага ўзросту. У гэтакіх сем'ях на аднаго сямейніка прыходзіцца менш за 1 265 800 рублёў, заробатных бацькамі ці паступіўшых з іншых крыніц.

Камісія па выдачы адраснай дапамогі райвыканкама прыняла рашэнне выдзеліць тым, хто звярнуўся ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, фінансавую дапамогу ў памеры 500 000 беларускіх рублёў. Такая дапамога выдзеляецца на кожнае дзіця школьнага ўзросту.

Па-першае, гэта мізэр, якога не хопіць, каб нармальна падрыхтаваць дзіця ў школу. Хіба што купіць просценькі гарнітурчык. А вось, каб яшчэ на чаравікі – і не хопіць. А яшчэ трэба ранец, школьныя прыналежнасці, спартовая форма.

Па-другое, 250 малазабяспечаных дзетак – гэта кожнае сёмае дзіця, якое наведвае школу. Думаецца, што фактычна на мяжы малазабяспечанасці сёння знаходзіцца ўжо кожнае трэцяе-чацвёртае дзіця. А тое сведчыць, што ўзорная беларуская эканоміка не ў стане забяспечыць грамадзянам сваёй краіны нармальнае існаванне. Толькі дзеці чыноўнікаў ды прадпрымальнікаў могуць жыць і выхоўваца ў адносным дастатку. У сем'ях, асабліва, дзе старэйшае дзіця вучыцца Ў ВНУ платна, малодшыя дзеткі жывуць у рэжыме строгай эканоміі.

Разавыя падачкі дзяржавы, якая мае такі штат чыноўнікаў і найбольшую ў Еўропе армію міліцыянтаў (пры разліку на душу насельніцтва) выклікае хіба раздражненне.

**Л.Паўлава.**

ЛЮДЗІ, КРАІНЫ, ВАНДРОЎКІ

# ПРАДАРОЖЖА Ў ШВЕЦЫЮ

*(працяг)*

**Медабслугоўванне.** У гаспадыні сям'і, дзе я гасцявала, праз месяц павіннна было быць папаўненне. Гаспадыня мне распавяла, што жанчына ў Швецыі за ўсе 9 месяцаў цяжарнасці наведвае медыцынскую установу толькі 8 разоў. Мяне гэта вельмі ўразіла, таму што добра ведаю гэтыя бясконцыя паходы раз на тыдзень у бальніцу, дзе так цяжка выстойваць даўгія чэргі. Тут жа табе пазначаюць час наведвання, якi займае ўсяго 5 хвілін. У адным і тым жа кабінеце ў цяжарнай жанчыны бяруць аналізы, праз 15 хвілін паведамляюць вынікі тых аналізаў. Пасля першых родаў жанчыну выпісваюць на пятыя суткі, пасля другіх – на трэція .У радзільні дазваляецца наведваць маці з дзіцяці ўсім родным.

Цікава і тое, што калі расходы на зубнога доктара перавышаюць 5 000 кронаў у год, то страхавыя арганізацыі кампенсуюць іх у памеры 50 % .

Катэгарычна забаронена лячыць антыбіётыкамі, і асабліва дзяцей, як гэта робіцца ў нас бясконца. І наогул, антыбіётыкі ў аптэцы ты набыць не зможаш, калі захочаш займацца самалекаваннем. Цікава і тое, што посуд з-пад лекаў нельга выкідваць проста ў вядро для смецця, а абавязкова трэба здаваць у аптэкі, і табе яшчэ за тое заплацяць грошы.

**Адукацыя.** Сучасная шведская сістэма адукацыі прадугледжвае адзіную абавязковую адукацыю, якая пачынаецца з сямігадовага узросту і доўжыцца 9 гадоў. Цікава тое, што ў школе хатняя заданні дзецям не задаюцца, а навучальны год пачынаецца з канца жніўня і заканчваецца ў сярэдзіне чэрвеня.

Болей як 95 % вучняў прадоўжваюць навучанне ў гімназіях, дзе можна выбраць тэарэтычны ці прафесійна-практычны накірунак. У гімназіях неабходна вучыцца 3 гады. У краіне больш за 30 вышэйшых навучальных установ, сярод іх трэцяя частка –універсітэты. У Швецыі навучаецца вялікая колькасць замежных студэнтаў. Навучанне было бясплатным, але, менавіта, з 2011 г.стала платным, і вось якім чынам: ВНУ выплачвае студэнтам стыпендыю ў памеры 7500 крон, а затым на працягу 20-ці гадоў ты вяртаеш гэтую стыпендыю з невялікімі працэнтамі. На адукацыйную галіну кіраўніцтвам выдзяляецца 4,9 % унутранага валавага прадукту – гэта адзін з найвышэйшых паказчыкаў у свеце.

**Харчаванне.** Што тычыцца харчавання ў Швецыі, то, можна сказаць, што гэта проста нейкая казка. У маіх сяброў, ды, я думаю, і ва ўсіх жыхароў наогул – нармальная з'ява, калі вы абедаеце дзесьці ў кафэ. Выбар страваў вельмі вялікі, і усе яны смачныя. Вельмі распаўсюджаны так званы мясны торт, у якім хлебныя праслойкі чаргуюцца з мясным ці рыбным начыннем – ну вельмі смачная рэч! Вельмі смачны, проста чароўны тут і хлеб. Надзвычай смачныя малочныя прадукты.

Неяк мы наведалі велізарны гандлёвы цэнтр (брэндавы шведскі знак) – "Ікею". Там абедалі ў ікеўскай рэстарацыі, якая арганізавана па прынцыпу знакамітага "шведскага стала". Кошт тут аднолькавы для ўсіх – 99 кронаў, але ты можаш выбіраць сабе што заўгодна і колькі заўгодна. Можаш сядзець хоць некалькі гадзін і мяняць стравы! Выбар вялікі, у асноўным гэта нацыянальныя стравы. Абавязкова прысутнічаюць ікра чорная, чырвоная, чырвоная рыба, мясныя каўбасікі, шмат розных соусаў, дэсертаў, напояў. Там нават талеркі вялікіх памераў, каб можна было класці сабе колькі заўгодна страваў. Наогул, мне падалося, што шведы ўжываюць шмат ежы, але тоўстых людзей на вуліцах нешта я не прыкмеціла. Калі мы там аплочвалі сваё харчаванне, то нам выдалі нейкія папяровыя ярлычкі. Аказваецца, што на выхадзе з гэтага гандлёвага цэнтру тым, хто наведваў "шведскі стол", у якасці бонуса дарылі па пакунку смачнага пячэння.

**Н.Бондар.**

ПЯЦІГАРСКАЯ ШКОЛЬНАЯ "РЭФОРМА"

# 8 400 КІЛАМЕТРАЎ У ШКОЛУ

Пасля "рэформы" Пяцігарскай школы ейным настаўнікам пачалі прадстаўляць працу ў іншых навучальных установах раёна. Хтосьці атрымаў гадзіны, што не хапалі да стаўкі на месцы, іншым пашанцавала меней. Мне выпаў самы "шчаслівы" білет – Паўазерская базавая школа. Адлегласць да яе ад маёй хаты – роўна 40 км. Ездзіць у суседняе Сянно было б бліжэй на 10 км. А так за ўвесь навучальны год прыйдзецца праехаць 8 400 кіламетраў! Па дажджу і галалёду. За свае грошы. А не хочаш – задавальняйся дванаццаццю гадзінамі ў Пяцігарскай школе і крыўдуй сам на сябе.

Яшчэ больш не пашанцавала нашай настаўніцы малодшых класаў. Да чацвёртага верасня ёй тлумілі галаву, абнадзейвалі, што месца працы захаваецца ў Пяцігарскай школе. А ў гэты дзень голас па тэлефоне загадаў кідаць школу, дзе яна адпрацавала больш за 20 гадоў, і ехаць на новае месца працы. І працаваць не настаўніцай, а выхавальніцай, пры гэтым значна губляючы ў заробку. Хаця ў райцэнтры на пасадах настаўніц малодшых класаў працуе некалькі жанчын пенсійнага ўзросту, якіх можна было б і замяніць. Але яны ўсе заслужаныя, іх звальняць ці перакідваць у іншыя школы, мусіць, забаронена. Аб іншых жа, якія не маюць родзічаў на высокіх пасадах, можна ледзьве што не выціраць абутак.

Найбольш уражвае ў гэтай гісторыі тое, што наша настаўніца ўлетку працавала на прышкольным участку, рамантавала свой клас, да апошняга дня даглядала ў ім цэлую аранжарэю кветак. А ў чыноўнікаў не знайшлося вольнага часу, каб хаця б выклікаць на гутарку, стваральчы выгляд удаванай заклапочанасці ейным лёсам.

Не нашымі клопатамі і турботамі жывуць чыноўнікі, а сваімі. А мы для іх толькі расходны матэрыял. Так было, так ёсць, і пры гэтай уладзе застанецца.

**Г.Станкевіч.**

НАШЫ ПЕРАДАВІКІ

# ЗАНЕСЕНЫ НА ДОШКУ ГОНАРУ

На раённую Дошку гонару ад 26.08.2012 было занесена РКУПСГП "Астроўна", пра што паведаміла "Зара" ад 28-га жніўня. Згодга раённай статыстыцы, на гэту дату тут было ўбрана 100% зерневых і зернебабовых культур на плошчы 1045 га пры сярэдняй ўраджайнасці 27, 8 ц/га.

Калі б на календары было мінулае стагоддзе, то з такім рашэннем аб занясенні можна было б пагадзіцца. Але ж на двары не 1990-ы і нават не 2000-ы год! Няўжо сёння ўраджай у 27 цэнтнераў дастойны для занясення на Дошку гонару?

Не, і яшчэ раз не. Бо ўраджай зерневых да 30 ц/га наогул не дае рэнтабельнасці. Так як кошт пасеяннага зерня, унесеных угнаенняў, прыменененых гербіцыдаў і фунгіцыдаў, спаленага паліва на ўсіх відах работ, амартызацыя дарагой тэхнікі плюс заробкі механізатараў і абслугоўваючых чыноўнікаў могуць нават пераважыць кошт дапрацаванага пасля ўборкі зерня. То бок, працавалі-працавалі, а ўсё без толку. А тут яшчэ Дошка гонару.

Ганарыцца сёлета ў нашым раёне можа хіба што ПСУП "ААБ Нафатар", дзе ўраджайнасць склала 41,2 ц/га на плошчы ў 3 900га. Але і гэты паказчык сёння дастатковы толькі на фоне адстаючых гаспадарак, такіх як "Астроўна" ці "Нізгалава". Бо нават цэлыя вобласці Беларусі (прыкладам, Гродненская) даўно перакрочылі праз рубеж у 50 ц/га. А перадавыя гаспадаркі рэспублікі намалочваюць 80 – 100 ц/га. Але на Захадзе тое даўно лічыцца шараговым паказчыкам. Так у фермерскай гаспадарцы Нямеччыны, дзе я працаваў у 1991-м годзе, ураджай азімага ячменю складаў каля 80-і, а пшаніцы каля 100 ц/га. З таго часу мінула два дзесяцігоддзі.

**Г.Станкевіч.**

P.S. У царскай Расеі ў 1913-м годзе ураджайнасць зерневых склала 13 ц/га. І тое было без калгасаў.

АДКАЗ НА ЗВАРОТ

# Веластаянка на аўтавакзале

З тым, што на роварах ездзіць некалькі соцен бешанкоўцаў, думаю, спрачацца не будзе ніхто. Як і з той аксіёмаю, што ніводзін бешанковіцкі начальнік на ровар не садзіцца. Калі б гэта было не так, Бешанковічы мелі б пэўны парадак з веладарожкамі і веластаянкамі. Не такія ўжо патрэбны вялікія выдаткі, каб навесці ў гэтай сферы парадак.

Але мы маем тое, што маем. Сёмага жніўня, у чарговы раз завітаўшы на аўтастанцыю і ў чарговы раз падпёршы роварам сценку будынка, я набраўся нахабства запатрабаваць кнігу скаргаў і прапаноў. Там я запісаў пра неабходнасць месца на такім сур'ёзным аб'екце як аўтастанцыя веластаянку.

Праз два з паловай тыдні прыйшоў адказ за подпісам дырэктара аўтатранспартнага прадпрыемства №21 А.С.Гушчы. На аркушы між іншым стаяла: "... у сувязі з нізкім тарыфам на пасажырскія перавозкі АС Бешанковічы нясе страты. За першае паўгоддзе яны склалі 75 896 3000 рублёў. Абсталяванне веластаянкі прынясе дадатковыя страты. У сувязі з вышэйзгаданым абсталяванне стаянкі для ровараў на дадзены момант немагчыма."

Чамусьці ўзгадалася класічнае: "Савецкія людзі на таксоўках не ездзяць". Калі крыху перафразаваць, то атрымаецца: "Тыя, дзеля каго стараецца існая ўлада, на роварах не ездзяць." Бо няма веластаянак не толькі на аўтастанцыі, але і каля райвыканкама і міліцыі, райсуда і пракуратуры, ваенкамата і школаў. Пра іх абсталяванне ў чыноўнікаў, якія катаюцца на іншамарках на дзяржаўным бензіне, галовы не надта баляць. А тых людзей, хто ездзіць на роварах і мог бы ўзняць пытанне на сесіі райсавета, у дэпутаты пушчаць не велена.

**Г.Станкевіч.**

ПЛАТНАЯ АДУКАЦЫЯ

# Дарагое навучанне

Як вядома, апетыт прыходзіць падчас ежы. Гэта ўзгадалася, калі я прачытаў заказны ліст з Полацкага дзяржуніверсітэту. Ён не вельмі ўзрадаваў. Калі гадавая плата за навучанне на першым курсе студэнта фінансава-эканамічнага факультэту згодна дамовы ад 06.08.2011 тут складала 4 600 000 рублёў, то роўна праз год лічба ўзрасла да 8 950 000. Цяпер у даляравым эквіваленце яна перавышае магічную лічбу 1 000.

Вядома, што пад тую лічбу можна падкласці любую калькуляцыю. Яно і зразумела, што існы рэжым шукае сабе паплечнікаў і ў шэрагу выкладчыкаў ВНУ. Калі заробкі там панізяцца да нейкага мінімуму, то пачнуцца хваляванні ў прафесарскіх галовах, на свет з'явяцца непрывабныя тэорыі пра нежыццядольнасць існуючай эканамічнай мадэлі. Каб тое папярэдзіць, чыноўнікам ад адукацыі штогод стабільна ўздымаюць аклады.

Ну і няхай бы ўздымалі з дзяржбюджэту, дык не, з кожным годам усё глыбей прагная рука дзяржавы запускаецца ў кішэнь бацькоў. А яна ж не бяздонная. І асабліва ў сельскай мясцовасці, дзе бацькам усё цяжэй шукаць тую тысячу даляраў.

Плата за першую вышэйшую адукацыю – вынаходніцтва лукашэнкаўскіх часоў. Да іх мы ні слыхам ні дыхам не ведалі, што падобнае магчыма ў краіне, дзе Канстытуцыяй гарантавана бясплатная адукацыя. Але пра што можна казаць, калі ў той жа першай Канстытуцыі ўзору 1994-га года стаяла чорным па беламу, што Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь можна быць не больш двух прэзідэнцкіх тэрмінаў па чатыры гады.

**Г.Станкевіч.**

НАШЫ ЧЫНОЎНІКІ

# ...ИХ СТАБИЛЬНОСТЬ

ПОКА ТОЛПЫ ЖЕЛАЮЩИХ СТАТЬ ДЕПУТАТАМИ ОБЕЩАЮТ НАМ, ПОЛУЧИВ МАНДАТ, БЕЗЗАВЕТНО БОРОТЬСЯ ЗА ИНТЕРЕСЫ ЛЮДЕЙ, ВЛАСТЬ ПОДГОТОВИЛА ДЛЯ НОВОГО «ПАРЛАМЕНТА» ТЕСТ НА ВЕРНОСТЬ ПРАВЯЩЕМУ КЛАНУ.

В Палату представителей в начале сентября поступила на утверждение новая редакция закона о государственных пособиях семьям, воспитывающим детей. Законопроект подготовлен в духе неизменной заботы государства о том, чтобы люди со своими проблемами не мешали реализации грандиозных планов действующей власти.

В частности, предлагается упразднить надбавки к пособиям, которые получали матери-одиночки, и отменить выплату пособий на детей старше трех лет, хотя они и раньше назначались только малообеспеченным семьям.

Давнее обещание привязать размер пособия по уходу за ребенком к средней зарплате по стране, что преподносилось как революция, на деле существенно не улучшит материальное положение молодых семей. Потому что это звучало красиво -- «привязать к средней зарплате». Но если речь идет всего-то о 35% этого самого заработка, да еще и не для всех и из расчета за предыдущий квартал, то актуальным остается вопрос: «Как прожить?»

Ну а теперь вопрос к кандидатам от власти, которые дружно рассказывают, что они -- в отличие от представителей оппозиции -- не болтуны, а люди дела. Кто из вас осмелится проголосовать против этого закона?

Вопрос к действующим «депутатам», которые желают продлить свои полномочия и баллотируются на новый срок. Кто из вас осмелился сообщить своим избирателям, что одним из первых законов нового «парламента» станет решение отобрать повышенные пособия на детей у матерей-одиночек?

Уверена, что никто не осмелился. А когда дойдет дело до голосования, то дружно нажмут кнопочки «за» и еще сделают нас всех идиотами: мол, как люди ответственные они, депутаты, голосуют за экономию государственных средств, а критики из оппозиции просто своими злобными нападками хотят дестабилизировать ситуацию в стране.

У нас ведь так: если у матерей-одиночек деньги отобрать, на детях сэкономить, то тут решительности и государственной воли достаточно. А когда недавно стало известно, что на машину для председателя Ельского райисполкома местный бюджет готов выложить более 70 тысяч долларов, то никто и не вспомнил о необходимости экономить, никто и не подумал возмутиться. Оказывается, это вполне скромно и по статусу. Потому что приоритеты государственного управления много лет стабильны: не власть для народа, а народ для власти.

Уже сейчас понятно, что каждый пятый будущий депутат Палаты представителей будет выходцем из обл- или райисполкомов. Лично изъявили желание перед пенсией получить депутатский мандат и право на повышенную пенсию девять председателей райисполкомов: Барановичского, Пружанского, Лепельского, Оршанского, Шарковщинского, Речицкого, Жлобинского, Щучинского, Клецкого. Если вспомнить, что в парламенте всего 110 мест, то это немало. А ведь помимо председателей в депутаты баллотируются их замы, начальники управлений, отделов, иных исполкомовских структур. Вот и получается: каждый пятый (если не больше) депутат окажется бывшим вертикальщиком.

Разумеется, свои кабинеты эти люди оставляют не потому, что намерены добиваться серьезных перемен. Не потому, что они вдруг прозрели и осознали… Не потому, что они вдруг увидели, что система управления, к созданию и функционированию которой они приложили руку, завела в тупик, не позволяет государству Республика Беларусь развиваться.

Сделав ставку на «сильную власть», основанную на личной преданности правящему режиму и не зависящую от мнения избирателей, мы выпестовали уродца: чиновники уже не умещаются в старых зданиях, им требуются все новые и новые кабинеты, а люди активные, молодежь просто уезжают из Беларуси, потому что не видят здесь для себя никаких перспектив. Чиновники своих детей тоже всеми правдами и неправдами отправляют за границу: если не на учебу и постоянное место жительства, то хотя бы на работу в посольства.

Потому что надо быть извращенного ума циником, чтобы не понимать, что вся Европа живет лучше и богаче нас. У нас построено государство, в котором не хотят жить наши дети. У нас построено государство, в котором люди, всю жизнь отработавшие от зари до зари, боятся голодной старости.

У нас построено государство, от которого мы все время ждем какой-нибудь подлости и обмана. Но, я уверена, все эти председатели райисполкомов, их замы и идеологи сейчас идут в депутаты именно для того, чтобы ситуация не менялась, чтобы все сохранялось так, как есть. Это и есть их пресловутая стабильность -- чтобы отобрать детское пособие и впредь было можно, а переизбрать слугу народа, который по нищему району не стесняется разъезжать в супердорогом авто, никак нельзя.

Я не пойду на эти «выборы». Мне такая стабильность не нужна.

**Светлана Калинкина, «Народная воля».**

КУХАРКА В УГАРЕ

## КАК ПРЕЗИДЕНТСКАЯ КУХАРКА УПРАВЛЯЕТ ГОСУДАРСТВОМ

З ВЫСТУПУ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ПАРЛАМЕНТА УЛ.ПАДГОЛА ПА РАДЫЁ "СТАЛІЦА" 7 ВЕРАСЬНЯ 2012 Г.

"ГЭТА ПАРЛАМЕНСКАЯ КАМПАНІЯ – ПЕРШЫ ЭТАП ВЫБАРАЎ ПРЭЗІДЭНТА. … МЫ МУСІМ ВЫЙСЬЦІ З УСІХ САЮЗАЎ З РАСІЯЙ І ЎСТАЛЯВАЦЬ ДЭМАКРАТЫЮ… А.ЛУКАШЭНКА СКАЗАЎ, ШТО ХОЧА БУДАВАЦЬ З НАШАЙ КРАІНЫ АГУЛЬНЫ ДОМ З РАСІЯЙ. ГЭТА ІНТЭРНАТ ЦІ, ПА-РУСКУ – "ОБЩЕЖИТИЕ". Я СУПРАЦЬ. БЕЛАРУСЬ – НАШ ДОМ... ТРЭБА ЎСТАЛЯВАЦЬ МЯЖУ З РАСІЯЙ, І МЫ СТАНЕМ ЖЫЦЬ БЯСЬПЕЧНА, ЯК ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ Ў ЭЎРОПЕ. А З ЭЗ ТРЭБА ЎВЕСЬЦІ БЯЗВІЗАВЫ РЭЖЫМ".

БТ 9 сентября 2012. Председатель ЦИК Л.Ермошина: «Большинство кандидатов ничего не говорит о нуждах избирательного округа. Они абсолютно не доводят до избирателей те небольшие дела, которые они будут стремиться сделать, находясь в парламенте для жителей небольших городов, для районов, вообще областных центров. Ну, и для отдельных округов города Минска. Это насущные интересы граждан и это волнует их более всего. Такое ощущение, когда слушаешь некоторых, что мы участвуем в выборах президента. Вплоть до того, что глобальные проблемы вплоть до того международных отношений с крупными странами. Я хотела бы приблизить кандидатов, прежде всего к народу. Быть проще. Люди к ним потянутся и это будет тот самый успех на выборах, к которому они стремятся».

С сайта парламента Республики Беларусь: функции Палаты представителей:

- рассмотрение проектов законов
- назначение выборов Президента
- одобрение кандидатов, назначаемых Президентом на пост Премьер-министра
- оценка работы правительства
- инициация вотумов недоверия, если это необходимо

**http://www.belarus.by/ru/government/parliament**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ВАЙСКОВАЯ СЛАВА І БЯССЛАЎЕ ГІСТОРЫКАЎ

**8 ВЕРАСНЯ — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ. ВІНШУЕМ УСІХ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ!**

8 верасня 1514 года нашы продкі перамаглі ў адной з самых слаўных бітваў — пад Оршай. На пачатку 90-х у гэты дзень вайскоўцы прымалі ўрачыстую прысягу на вернасць Беларусі. За Лукашэнкам свята стала нефармальным, а нават пераследаваным.

З нагоды свята перадрукоўваем класічны артыкул нашага выдатнага гісторыка Генадзя Сагановіча «Вайсковая слава і бясслаўе гісторыкаў».

У нашай даўняй гісторыі няма іншай падзеі, якая б стала падобным сімвалам і выклікала столькі ж вострых баталій, як бітва пад Воршай. Гэта вялікая перамога над намнога большым маскоўскім войскам, здабытая ў абарончай вайне, на сваіх землях і сваёй жа арміяй, кіраванай сваім (праваслаўным!) гетманам.

Пачынальнікі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі бачылі ў ёй лепшы доказ гістарычнай нятоеснасці беларусаў і вялікарусаў. А для гісторыкаў расейскіх, наадварот, яна была ці не самай «нязручнай» падзеяй, што ніяк не ўпісвалася ў канцэпцыю «адзінага славянарасійскага народу».

Вось жа стаўленне да гэтай бітвы ў самой Беларусі і вызначалася змаганнем расійскага бачання з беларускім. Пасля разгрому «нацдэмаўскай» гістарыяграфіі і ўсталявання савецкай гістарычнай дактрыны Ворша была табуяванай тэмай, — да абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Толькі тады «забытая» сеча вярнулася ў падручнікі, была ацэненая як «вялікая перамога» ваяроў, што «баранілі незалежнасць сваёй дзяржавы, свае хаты і сем'і». У першай палове 1990-х гадоў, пры хоць якой дэмакратыі, пра Аршанскую бітву ў нас пісалася болей, чым пра якую іншую падзею айчыннай гісторыі. І штогод кольkасць публікацыяў пра яе ў перыёдыцы падвойвалася!

З прыходам А. Лукашэнкі ды яго курсам на рэінтэграцыю з Расіяй стаўленне да бітвы дыяметральна змянілася. Мясцовыя адэпты «трыадзінарускасці» зноў узяліся цвердзіць, быццам бітва пад Воршай не вартая і памяці, бо была… «братазабойчай». Трашчанок так і пiша: войны Масквы супраць ВКЛ «нельга прадстаўляць як беларуска-руская сутыкненні, у якіх рускі бок быў агрэсарам», гэта — «зламысная фальсіфікацыя!» Дык кім жа тады быў «рускі бок» у распачатых ім жа войнах?

Для цяперашніх трубадураў «Вялікай Расіі», як і для іх ідэйных айцоў з XIX ст., межы «рускага» народа вызначала праваслаўе, таму, маўляў, агрэсія Масквы супраць Вялікага Княства была справядлівай барацьбой за «ўз'яднанне» зямель Русі ў адной дзяржаве.

Але акурат Аршанская бітва і бурыць падобны тэзіс пра праваслаўе як падставу таго «адзінства» ды справядлівы характар войнаў «за ўз'яднанне». Вось жа ў XVI ст. для нашых продкаў было натуральным не толькі помніць пра перамогу пад Воршай, але і ганарыцца ёю. Праваслаўны летапісец дзякаваў гетману Астрожскаму за тое, што яго стараннямі «маскоўскага ворага пабілі», і ставіў маскавітаў у адзін шэраг з бусурманамі.

У эпоху жорсткага супрацьстаяння з Масквою сечу 1514 году часта згадвалі ў гераічным кантэксце, называючы «вялікай бітвай Аршанскай». Падзея, якая ўжо тады набыла сімвалічнае значэнне, вартая таго, каб быць ключавым топасам беларускага нацыянальнага наратыву. Таму эпігоны заходнерусізму і стараюцца любым чынам затушаваць ці маргіналізаваць яе. То цвердзяць, быццам армію Астрожскага складала толькі польская і літоўская шляхта, а беларусы калі і былі, дык «паднявольныя», то што бітва не мела анiякага значэння…

Ніхто не скажа дакладна, якую частку пераможнага войска складалі вершнікі з Беларусі, але гэта не мае прынцыповага значэння. Прынцыповы факт масавага ўдзелу ў бітве праваслаўнай беларускай шляхты (а пад Воршу прыйшло паспалітае рушанне з усіх земляў ВКЛ!) і тое рэха, якое яна выклікала ў тагачаснай Беларусі. Шляхта ж (а яна па вызначэнні не бывала «паднявольнай») незалежна ад этнічнага паходжання лічыла ВКЛ сваёй дзяржавай і бараніла, бо дажыла яго палітычным ладам.

Што ж да значэння, то хоць перамога і не стала вырашальнай у вайне, яна спыніла маштабны наступ маскоўскай арміі ўглыб краю і дапамагла вызваліць гарады Ўсходняй Беларусі, а ў далейшым — і паспрыяла развалу небяспечнага ваеннага альянсу Масквы з імперыяй Габсбургаў, які пагражаў існаванню ВКЛ.

Так што пафасныя словы падручніка пра абарону суверэнітэту зусім не беспадстаўныя. Менавіта бітве пад Воршай выпала асаблівая роля ў фармаванні сучаснай беларускай тоеснасці. Ніводная іншая падзея не выклікае такога канфлікту ідэнтычнасцяў — беларускай і расійскай. У стаўленні да яе і выяўляецца, хто кім сябе ідэнтыфікуе. Для адных гэта «святая бітва за Бацькаўшчыну», для другіх — «эпізод унутрырускай міжусобіцы». І звесці іх немагчыма.

**Генадзь Сагановіч, газета «Свабода» (2008).**

СПАРТЫЎНЫ СКАНДАЛ

# ГАСТРОЛІ ТЭАТРА АБСУРДУ Ў МАНЕЖЫ ДЛЯ ШТУРХАННЯ ЯДРА

ДЫРЭКТАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА АНТЫДОПІНГАВАГА АГЕНЦТВА СЦВЯРДЖАЕ, ШТО ДОПІНГ У ЕЖУ НАДЗЕІ АСТАПЧУК ПАДСЫПАЎ ЯЕ ТРЭНЕР. НАСТАЎНІК, У СВАЮ ЧАРГУ, АБЯЦАЕ ЗМЯНІЦЬ ПРОЗВІШЧА ЯФІМАЎ НА ІДЫЁТ. САМА АСТАПЧУК НАЗЫВАЕ ЎСЁ ГЭТА ТРЫЗНЕННЕМ.

Нагадаем, што 5 жніўня Надзея Астапчук заняла на Алімпіядзе першае месца, штурхнуўшы ядро на 21 метр 36 сантыметраў. Але ўжо 13 жніўня стала вядома, што ў спробе беларускай лёгкаатлеткі выяўлены допінг. У выніку Міжнародны алімпійскі камітэт пазбавіў Астапчук статусу алімпійскай чэмпіёнкі, а ў Мінску пачалося разбіральніцтва, як забароненыя прэпараты патрапілі ў арганізм спартсменкі.

**«Асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік перад Гульнямі, ён дадаў у ежу спартсменкі забароненае рэчыва»**

Праз месяц дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Аляксандр Ванхадла на прэс-канферэнцыі апублікаваў вынікі расследавання (цытуецца па TUT.BY):

Было вызначана і атрымана прызнанне трэнера Астапчук Аляксандра Яфімава аб тым, што 30 ліпеня пасля здачы апошняга допінг-кантролю, асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік перад Гульнямі, ён дадаў у ежу спартсменкі забароненае рэчыва.

Выканкам Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі сумесна з дысцыплінарнай антыдопінгавай камісіяй нашага агенцтва прыняў наступныя рашэнні: «Улічваючы вынікі расследавання, тлумачэння спартсменкі, прызнання трэнера, згодна з палажэннямі Сусветнага антыдопінгавага кодэкса і антыдопінгавых правілаў Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі дыскваліфікаваць трэнера Астапчук Аляксандра Яфімава на 4 гады. Улічваючы абставіны таго, што адбылося, поўнага няведання Астапчук аб тым, што яна прымала забароненыя рэчывы, мы палічылі сітуацыю выключнай (ёсць такое палажэнне ў кодэксе), а таксама адказнасць за знаходжанне забароненага рэчыва ў арганізме спартсменкі, прынялі рашэнне аб дыскваліфікацыі Астапчук на 1 год «.

Дадзенае рашэнне афармлена і накіравана ў Міжнародную федэрацыю лёгкай атлетыкі. Менавіта гэтая арганізацыя прыме канчатковае рашэнне па факце парушэння.

**«Я змяню прозвішча, Яфімаў на Ідыёта»**

У той жа дзень Аляксандр Яфімаў заявіў «Еўрарадыё»:

- Не чытайце ў інтэрнэце і не глядзіце газет! Але я пакуль ад каментароў устрымаюся.

- Аляксандр Мікалаевіч, напісалі, што вы сказалі, вы прызналіся ...

- Ага ... (саркастычным тонам. - Еўрарадыё)

- ... не быў упэўнены ў выніку, таму падсыпаў.

- Я змяню прозвішча, Яфімаў на Ідыёта. Больш пакуль каментаваць не буду.

- Вы адмаўляеце, што самі падсыпалі допінг? Гэта няпраўду напісалі?

- Я ж не кажу, што адмаўляю. Я кажу, што проста змяню прозвішча. А больш пакуль каментаваць не буду. Вось дачакаемся рашэння Міжнароднай федэрацыі, а потым будзем каментаваць. Потым я скажу, што я казаў, а што я не казаў ...

**«Чалавек мне маці замяніў пасля яе смерці»**

У той жа дзень Надзея Астапчук пракаментавала новы паварот падзей у гутарцы з Goals.By:

- Не веру ва ўсё гэта. Я ехала ў Менск і толькі тады даведалаася. Ведаю сітуацыю толькі па тым, што напісана ў прэсе. Гэта проста жах нейкі. А трызненне я каментаваць не хачу.

- Не верыце, што такое магло адбыцца?

- Як можна ў гэта верыць? Чалавек мне маці замяніў пасля яе смерці. Усе гэтыя фармулёўкі смешныя. Не веру, што ён гэта мог зрабіць. Гэта нейкі абсурд поўны.

- Не размаўлялі яшчэ з Аляксандрам Мікалаевічам?

- Не, мяне гэтая навіна заспела ў дарозе. Ехала нія кая наогул.

- У прынцыпе, верыце, што трэнера маглі проста прымусіць зрабіць такое прызнанне?

- Трэба разбірацца. Прайшоў нейкі расследаванне без мяне, знайшлі або прызначылі вінаватага, вырашылі за мяне, што я спорт пакінула. Для мяне сёння адкрылася шмат дзіўных рэчаў.

- Вашы далейшыя дзеянні?

- Для пачатку хачу з трэнерам убачыцца. Праўда, пакуль не магу да яго нават датэлефанавацца. Усё гэта ў галаве не ўкладваецца. Што далей будзе, пакуль не ведаю.

**Лухта для міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі**

Ад гэтай гісторыі застаецца адчуванне катастрафічна дрэнна зрэжысаванага спектакля, сэнс якога складаўся ў тым, каб выклапатаць спартсменцы мінімальную дыскваліфікацыю. Але для гэтага трэба было знайсці «ахвярнага казла», які возьме усё на сябе і скажа, што сама Астапчук ведаць не ведала, што прымае допінг.

Як Яфімава вымусілі зрабіць «добраахвотнае прызнанне», можна толькі здагадвацца. Трэнер Астапчук, вядома, не анёл. Але і не ідыёт. Менавіта таму ён не мог падсыпаць сваёй падапечнай прэпарат, які выявіла антыдопінгавая лабараторыя.

Каб даказаць гэта, дастаткова звярнуцца да слоў, сказаным Аляксандрам Ванхадла жніўня 13 «Прессболу»:

- Дзіўна, што 30 ліпеня спартсменка нармальна прайшла кантроль, а ўжо 4 жніўня - няма ... Дысцыплінарная камісія выказала меркаванне, што яна магла прыняць прэпарат у прамежак з 30 ліпеня па 4 жніўня. Але я не бачу сэнсу ў аднакратным прыёме прымабалана, які знайшлі, так як гэта не той прэпарат, які дасць перавагу пры аднаразовым прыёме, ён не паспее падзейнічаць.

Яфімаў, які прапрацаваў шмат гадоў у вялікім спорце, не мог не ведаць гэтага. Таму, калі б ён, «асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік», падсыпаў Астапчук у ежу забаронены прэпарат, то відавочна нейкай іншай, хуткадзейны і эфектыўны.

Увогуле, справа шытая нябелымі ніткамі - лінаміі. Гэта відавочна нават неадмыслоўцу. Можна ўявіць сабе, якое ўражанне гэтая лухта зробіць на Міжнародную федэрацыю лёгкай атлетыкі, куды нашы дзеячы ўжо адправілі вынікі «расследавання». З прычыны такога фінта імідж Беларусі можа пацярпець куды мацней, чым ад факту выяўлення допінгу ў алімпійскай чэмпіёнкі ...

**Ігар Патапчук, «Салідарнасць».**

ФІНАНСАВАЯ ПРАБЛЕМА

# АБВАЛ САЛЬДА

САЛЬДА ЗНЕШНЯГА ГАНДЛЮ ТАВАРАМІ Ў ЛІПЕНІ ЗМЕНШЫЛАСЯ Ў 18 РАЗОЎ ПАСЛЯ ПРЫПЫНЕННЯ СХЕМАЎ ЭКСПАРТУ РАСТВАРАЛЬНІКАЎ І РАЗБАВІЦЕЛЯЎ.

Сальда знешняга гандлю таварамі ў ліпені склала ўсяго $23,2 млн, знізіўшыся ў параўнанні з чэрвенем прыкладна у 18,5 разу. Такія звесткі ўтрымліваюцца ў прэс-рэлізе Белстата аб гандлёвым балансе Беларусі ў студзені — ліпені 2012 года.

Згодна са свежымі звесткамі ведамства, аб'ём экспарту тавараў у ліпені 2012 знізіўся на $266,9 млн — да $ 3,95 млрд з $ 4,22 млрд месяцам раней. У той жа час імпарт тавараў вырас на $140,7 млн — з $3,79 млрд у чэрвені да $ 3,930 млрд у ліпені.

Усё гэта прывяло да абвальнага падзення станоўчага сальда знешняга гандлю таварамі да $ 23,2 млн з $430,8 млн месяцам раней.

Тое, што адбылося можна растлумачыць прыкрыццём схемы экспарту растваральнікаў і змазачных матэрыялаў з расійскай нафты без выплаты экспартнай пошліны ў расійскі бюджэт.

Таксама неабходна ўлічваць, што ў ліпені яшчэ часткова ажыццяўляліся пастаўкі расійскай сыравіны для вытворчасці растваральнікаў і разбавіцеляў. У жніўні ж такія пастаўкі былі цалкам заблакаваныя, што яшчэ больш адаб'ецца на звестках па знешнегандлёвым сальда Беларусі за гэты месяц

**dengi.onliner.by**

ПРАМОВА КАНДЫДАТА

# ХОПІЦЬ ЖЫЦЬ ПА-ЖАБРАЦКУ Ў "ОБЩЕЖИТИЯХ"!

Паважаныя грамадзяне, сябры!

Гэта парламенская кампанія – першы этап выбараў прэзыдэнта.

Я перакананы, што беларусы, якія перамаглі гітлераўскі фашызм, мусяць і могуць жыць лепш, чым жывуць сёньня немцы. Нашы бацькі і дзеды знайшлі волю і сілы, каб разграміць войскі дыктатара, а мы мусім дамагчыся самага лепшага жыцьця ў сьвеце для нашых дзетак і ўнукаў. Ёсьць хто супроць? Усе ЗА!

Чаму ж мы жывем горш за немцаў, горш за літоўцаў, палякаў, эстонцаў ды другіх эўрапеўцаў? Адказ просты. Сёньня Беларусьсю кіруюць з Крамля. Масква бачыць нас сваёй губерніяй. Мы мелі свае мыты-пошліны на легкавыя аўто, але як толькі нас завялі ў мытны хаўрус з Расіяй, нам іх значна падвысілі. Мы ў БНФ лічым, што трэба неадкладна адмяніць пошліны на легкавыя аўтамабілі. Кожны ў Беларусі мусіць мець мажлівасьць набыць аўто эўрапескага ці амерыканскага вырабу.

Мы дажыліся да таго, што ў Польшчы пенсія складае 500 эўра, а заробак – 1 000, у Беларусі ж – у 3-5 разы менш. А цэны ў палякаў ды літоўцаў на ежу, вопратку ды пральныя сродкі ў разы меншыя за нашыя. Калі станем еўрапейскай краінай, тады будзем жыць значна лепш.

Мы мусім выйсьці з усіх саюзаў з Расіяй і ўсталяваць дэмакратыю. Гэта перадумова праграмы Маршала-3. Мы можам атрымаць сотні мільярдаў даляраў крэдытаў ад ЭЗ і ЗША, калі захочам жыць як у цывілізаваным сьвеце. Колісь немцам, якія пазбавіліся ад Гітлера, дапамаглі стаць адной з самых багатых краінаў сьвету. Потым дапамаглі Грэцыі. Зараз настае наша чарга стаць эўрапейскай краінай, а не губерніяй Расіі. Але грошы дадуць толькі пад рэформы ад дыктатуры да дэмакратыі. Пад увядзеньне прыватнай уласнасьці, ў тым ліку на зямлю.

А.Лукашэнка сказаў, што хоча будаваць з нашай краіны агульны дом з Расіяй. Гэта інтэрнат ці, па-руску – "общежитие". Я супраць. Беларусь – наш Дом. Уладзімір Караткевіч казаў, што Беларусь – наш Дом, наш Храм. І я ўпэўнены, што амаль усе жыхары нашай краіны хочуць будаваць у нас Эўрапейскі Дом з бел-чырвона-белым сьцягам на даху, а не эўразійскае "общежитие". Мы ўсе робім у кватэры эўрарамонт, і ніхто – эўразійскі.

Скажыце, дзе вы бачылі дом, у якога тры сьцяны ёсьць, а чацьвёртай няма? Дзе вы бачылі, каб у доме без сьцяны жылі людзі? Мы так жывем у Беларусі, бо ня маем мяжы з Расіяй. І да нас з Расіі прэцца ўвесь крымінал, наркотыкі. Трэба ўсталяваць мяжу з Расіяй, і мы станем жыць бясьпечна, як жывуць людзі ў Эўропе. А з ЭЗ трэба ўвесьці бязвізавы рэжым.

Я лічу, што кожная сям'я мусіць мець сваю кватэру ці дом, а таксама дачу. Хопіць жыць па-жабрацку ў "общежитиях"!

Большасьць прадстаўнікоў, якіх мы накіравалі ў выбарчыя камісіі, чыноўнікі не дапусьцілі, адсеялі. А зараз вашы галасы могуць прыпісаць тым, хто будзе ціхенька падтрымліваць рост цэнаў, коштаў на жытло, пагаршэньне жыцьця. Менавіта так адбылося пасьля прэзыдэнцкіх выбараў–2010, калі вы страцілі вялікія грошы ў ашчадбанках. Калі цэны сягнулі касмічных высот і сталі нашымі спадарожнікамі.

У 1995 годзе А.Лукашэнка заклікаў вас перад выбарамі ў парламент: «Я ни за кого не буду голосовать. Ни за кого! Все равно обманут. Одни ушли со льготами, вторые придут – льготы прихватят, я не пойду голосовать! « (БТ 20.04.1995).

Сёньня ў нас тое ж самае. Толькі свабодныя выбары прэзыдэнта вырашаць лёс Беларусі.

Калі будуць жыць у нашых душах маральныя хрысьціянскія каштоўнасьці, а яны бел-чырвона-белага колера, тады будуць жыць беларусы і беларусачкі, вашы дзеці і ўнукі. Давайце адбудуем разам наш эўрапейскі Дом-Храм – Беларусь.

Урэшце вам ліст ад сябраў БНФ:

23 верасьня мы з ранку пайдзем па грыбы. Потым папрацуем на градах. А увечары накрыем стол ды кульнем чарку за памяць нашых продкаў, за вяртаньне бел-чырвона-белага сьцяга і герба Пагоня. Узнімем келіхі і вып'ем за шчасьце нашых дзетак і ўнукаў. За перамогу! Ды разам гукнем: Жыве Беларусь!

І будзем жыць у сям'і эўрапейскіх народаў і ў сяброўстве з амерыканцамі.

**Уладзімер Падгол, кандыдат у дэпутаты, Менск.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.09.2012 у 18.50.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.